Цана 30 н. фэн.,
для заграніцы—50 н. фэн.

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

№ 64 — 5 лістапада 1950 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 3

# Навука з Карэі

Вайна у Карэі, справакаваная й успамаганая чырвонай Масквой, сталася грознай перасьцярогай для дэмакратычнага Захаду, што ужо наступіу апошні мамэнт, каб ратавацца перад няухільнай загрозай інвазыі сусьветнага камунізму. Яна канчальна разьвеіла зманлівыя ілюзыі, што ведзеная ад даужэйшага часу Саветамі халодная вайна не прадстауляе яшчэ непасрэднай небясьпекі гарачае вайны ды што з Савецкім Саюзам яшчэ можна будзе дагаварыцца на шляху дыпляматычным.

У вабліччы выпадкау, што разыграліся на Далекім Усходзе, Захад пабачыу свае дасюлешнія памылкі у ягоных дачыненьнях з камуністычным Усходам. Ен пачау разумець, што каб уратавацца, неабходна паддаць грунтоунай рэвізыі сваю дасюлешнюю палітыку ды распачаць новы курс як у галіне мілітарнай, гэтак і палітычнай.

Вось чаму карэйскія падзеі зьяуляюцца вельмі важным зваротным пунктам у гісторыі міжнародных узаемадачыненьняу пасьля другое сусьветнае вайны.

## ЗА СВАБОДНУЮ, НЕЗАЛЕЖНУЮ Й ЗАДЗІНОЧАНУЮ КАРЭЮ

Калі 27 чэрвеня амэрыканскія збройныя сілы на загад прэзыдэнта Трумана адплылі з далекаусходніх базау на Карэю і калі потым амаль усе дэмакратычныя дзяржавы Задзіночаных Нацыяу адна за другой пачалі далучацца да збройнай акцыі супраць агрэсара, дык аснауной мэтай гэтых мерапрыемствау было адагнаньне пауночна-карэйскай арміі да 38 паралелі й устанауленьне таго стану, які там існавау да часу узьнікненьня канфлікту. Ясна, што такая пастаноука справы не магла разьвязаць ані нацыянальнай праблемы карэйскага народу, ані стацца тэй магутнай ідэйнай сілай, якая змабілізавала-б народы сьвету на змаганьне з камунізмам. Такая ідэя выглядала тым больш рэакцыйнай у вабліччы выкінутага камуністымі лезунгу, які дамагауся поунага нацыянальнага вызваленьня й унезалежненьня ад каляніяльнага вызыску Захаду як Карэі, гэтак і усіх народау Азіі.

Таму Захад, а у першую чаргу Амэрыка, стыкнуушыся гэты раз з камунізмам не у дыпляматычных кабінэтах, але на полі бою, мусіу зразумець, што ягонае імкненьне да захаваньня «статусу кво» і падзелу сьвету на сфэры уплывау есьць ягонай капітуляцыяй перад камунізмам і галоунай прычынай карэйскай трагэдыі. Першая Амэрыка зрывае із сваей дасюлешняй лініяй, калі прэзыдэнт Труман у сваей радыя-прамове 2 верасьня заявіу, што імкненьнем ЗША есьць „свабодная, незалежная й задзіночаная Карэя“ і „Свабода для усіх народау Далекага Усходу“.

Наступным крокам у гэтым кірунку была рэзалюцыя, прынятая нядауна цяперашняй асамблеяй ЗН, якая даручыла галоунакамандуючаму збройнымі сіламі ЗН у Карэі перайсьці 38 рауналежнік з мэтаю правядзеньня усіх мерапрыемствау дзеля устанауленьня вольнай, незалежнай і задзіночанай Карэі.

На моцы гэтага збройныя сілы Задзіночаных Нацыяу 8 кастрычніка перайшлі 38 рауналежнік і апэ[illegible]юць цяпер на бальшыні тэрыторыі Пауночнай Карэі.

Гэты крок на Карэі есьць першым актам зарваньня із дасюлешняй палітыкай захаваньня „статусу кво“, якая кінула у няволю цэлы рад волялюбных народау і якая каштавала шмат крыві й амэрыканскім жаунерам ды жаунерам іншых вольных народау, што змагаюцца на Карэі. У гэтым вялікае гістарычнае значэньне гэтага акту.

## МІЛІТАРНАЯ МАБІЛІЗАЦЫЯ ЗАХАДУ

Калі халодная вайна раптоуна перайшла у фазу гарачае вайны, Захад аказауся мілітарна да яе непрыгатаваным. Выпадкі у Карэі як ня трэба лепей гэта паказалі, калі збройныя сілы Амэрыкі, успамаганыя як сіламі паудзенна-карэйскае арміі, так і сіламі іншых дзяржавау ЗН, паносячы усьцяж вялікія страты, толькі пасьля трох месяцау зацягае абароны змаглі перайсьці да контрафэнзывы. І гэта сталася, толькі на тэрыторыі невялічкае Карэі а што-ж гаварыць пра эвэнтуальнае выступленьне усіх сілау Савецкага Саюзу супольна зь ягонымі сатэлітамі на усіх фронтах? Абліч энгні пэсымістых, што Саветы за некалькі дзен занялі-б усю Эуропу, не напатыкаючы на сур'езны супраціу, маглі-б стацца рэальным фактам. Бо-ж, як алярмавау пару месяцау таму назад Чэрчыль, у той час, калі Саветы маюць сяньня пад зброяй 175 дывізыяу арміі, гатовай у кажны мамэнт рынуцца на падбой Эуропы, дзяржавы Атлянтычнага пакту распараджаюцца усяго толькі 12 дывізыямі...

Усе гэта прымусіла Захад раптоуна схамянуцца й шпаркімі тэмпамі адрабляць недаробленае у галіне збраеньняу. Таму увесь заходні сьвет на чале з Амэрыкай стаіць сяньня пад знакам пасьпешнае мабілізацыі сваіх сілау. Асабліва вялізарныя высілкі кладзе у гэтым кірунку Амэрыка, якая уводзіць у свой бюджэт проста астранамічныя сумы на збраеньне свае собскае, як і на збройную помач дзяржавам Заходняе Эуропы, а таксама павялічвае да нябывалых разьмерау прадукцыю зброі. Апошняй пастановай ЗША есьць павялічэньне амэрыканскае арміі да двух мільенау жаунерау.

У сьлед за Амэрыкай ідуць дзяржавы Заходняе Эуропы, перадусім Вялікабрытанія й Францыя, дзе таксама уводзяцца законы аб павялічэньні арміі, прадаужэньні тэрміну вайсковае службы ды павялічэньні й прысьпяшэньні збраеньняу. Завяршэньнем гэтых абаронных мерапрыемствау была нядауняя пастанова Рады 12 міністрау Атлянтычнага пакту аб стварэньні супольнай эурапэйскай арміі пад цэнтральным камандаваньнем і у такой сіле, каб яна магла адстрашыць кажнага напасьніка й забясьпечыць абарону Эуропы.

І калі камуністычная агрэсыя на Захадзе так хутка яшчэ не загражае, то Эуропа будзе мілітарна прыгатаванай, каб бараніцца. Калі-ж аднак Саветы не захочаць чакаць, пакуль яна належна узброіцца, і калі у плянах Крамля ляжыць яе заатакаваць як найхутчэй, то

(Працяг на 4 балоне)

# СУПОЛЬНЫМІ СІЛАМІ!

У артыкуле «Неадкладная Справа», зьмешчаным у папярэднім нумары «Бацькаушчыны», мы заалярмавалі нашае грамадзянства з прычыны жахлівага заняпаду беларускае прэсы на эміграцыі, нязвычайна шкоднага для нашай нацыянальнай справы, як і выказалі неабходную патрэбу ейнага аднауленьня й ажыуленьня. Мы таксама сьцьвердзілі, што пры наяунасьці добрае волі нашае эміграцыі й мінімальнай ахвярнасьці зь ейнага боку існуюць аднак дастатковыя магчымасьці стварэньня супольнымі сіламі нашых суродзічау двух цэнтральных прэсавых органау на чужыне: аднаго у Эуропе, а другога за акіянам—у ЗША. Пры гэтым яны не павінны былі-б быць лякальнымі органамі, прысьвечанымі толькі патрэбам беларусау тых краінау, у якіх яны выходзілі-б, але органамі цэнтральнымі, якія абслугоувалі-б нашую эміграцыю ува усім сьвеце і утрымліваліся-б за ейныя сродкі.

Дык разумеючы вялізарную ролю прэсы у нашым нацыянальна-вызвольным руху, «Бацькаушчына» й бярэ на сябе заданьне стацца адным із гэтых цэнтральных прэсавых органау, які будзе выдавацца на эурапэйскім кантынэнце—у Нямеччыне.

З гледзішча на невялікую колькасьць нашае эміграцыі ня можа быць і мовы аб тым, каб „Бацькаушчына“ змагла існаваць толькі із падпісной платы чытачоу ды прадажы паасобных эгзэмплярау газэты. Для гэтага неабходнымі зьяуляюцца скромныя, але сталыя ахвяры нашага грамадзянства з усіх краінау ягонага расьсяленьня. Дык да добрае волі нашых суродзічау на эміграцыі і іхнага зразуменьня вялікай нацыянальнай важнасьці распачатай намі справы тутака й зьвяртаемся. Не павінна быць аніводнага Беларуса, незалежна ад таго, у якую частку сьвету закінуу яго выгнанскі лес, які-б ня дау маленькай часткі свайго месячнага заработку на утрыманьне й пашырэньне роднага друкаванага слова.

Маючы за заданьне абслугоуваньня усяго нашага эміграцыйнага грамадзянства, „Бацькаушчына“ будзе газэтай апартыйнай: ейныя балоны будуць зауседы даступныя для людзей розных палітычных паглядау і перакананьняу, калі яны ня будуць пярэчыць ідэі незалежнасьці Беларусі й прынцыпам дэмакратызму. Служэньне беларускай вызвольна-незалежніцкай ідэі, ейнае паглыбленьне сярод раськінутых па цэлым сьвеце нашых суродзічау, ейнае папулярызаваньне й дэманстраваньне перад нашымі бліжэйшымі й далейшымі суседзямі й заходнім дэмакратычным сьветам, як і станоу-

(Працяг на 2 балоне)

# За Свабоду для усіх Народау!

У сваей нядаунай радыяпрамове да амэрыканскага народу прэзыдэнт Труман заявіу, што асновай далекаусходняй палітыкі Амэрыкі будзе цяпер:«Вольная, незалежная й задзіночаная Карэя» і «Свабода для усіх народау Далекага Усходу». Гэтая заява прэзыдэнта ЗША адкрывае новую балону у гісторыі паваеннага сьвету, яна есьць азнакаю перастауленьня палітыкі заходніх дэмакратыяу на новы шлях у дачыненьні да Далекага Усходу.

Да гэтага часу далекаусходняя палітыка Захаду базавалася на прынцыпе утрыманьня таго стану, які там існавау дагэтуль. Гэты стан у дачыненьні да Карэі абазначау ейны падзел на дзьве сфэры уплывау: савецкую й амэрыканскую, а у дачыненьні да усяго Далекага Усходу утрыманьне й надалей сотняу мільенау народу у поукаляніяльнай залежнасьці.

Дык ясна, што захаваньне «статусу кво» на Далекім Усходзе не магло стацца тэй вялікай жывой ідэяй, якая—б змагла заспакоіць нацыянальныя імкненьні народау Азіі й спараліжаваць сярод іх камуністычныя уплывы. Бо якраз Саветы прапагуюць увесь час насьпелую сярод народау Усходу ідэю поунай дзяржаунай незалежнасьці й нацыянальнага вызваленьня з пад панаваньня капіталістычнага сьвету. Кідаючы клічы «Азія для Азіятау», савецкая прапаганда маскуе пад імі свае запраудныя мэты—«Азія для Масквы». Але мільенныя масы Азіі, не разумеючы запраудная мэты бальшавіцкай прапаганды й не адчуушы на собскай скуры камуністычнага ярма, адносіліся з наіуным даверам да фальшывых словау, што ішлі з Масквы. Цяпер—жа, пасьля заявы амэрыканскага прэзыдэнта, магутнае аружжа, якое выкарыстоувала Масква на шкоду народау Азіі, вырвана зь ейных рук для іхнага дабра. У гэтым і заключаецца вялікае гістарычнае значэньне новай далекаусходняй палітыкі дэмакратычнага Захаду, запачаткаванай заявай прэзыдэнта Трумана.

Але чаму свабода для народау толькі Далекага Усходу? Чаму у гэтай гістарычнай дэклярацыі не знайшлося слоу, якія гарантавалі—б свабоду народам, паняволеным бальшавізмам, народам сярэдняусходняй Эуропы й падсавецкай Азіі?

Заява прэзыдэнта Трумана, гарантуючая свабоду усім народам Далекага Усходу, была зробленая бясспрэчна у сувязі з вайной у Карэі й пашырэньнем камуністычных уплывау на усе народы Далекага Усходу. Яна мела на мэце вырваць гэтыя народы з пад уплывау Масквы, выкарыстаць іх для справы дэмакрацыі, зрабіць іх сваімі саюзьнікамі а ня ворагамі.

Але ці—ж нашыя народы, якія увесь час крывавяцца у змаганьні з бальшавізмам за сваю вольнасьць і незалежнасьць, сілаю заграбленую ім камуністычнай Масквой, не заслужылі у вачох Захаду на свае прыроднае права быць свабоднымі?

Бо ясна, што камуністычная агрэсыя, у проціувагу якой была зробленая заява прэзыдэнта Амэрыкі, загражае ня толькі на Далекім Усходзе; яна загражае на цэлым сьвеце, асабліва у Эуропе. Не падлягае найменшаму сумліву факт, што загроза трэйцяй сусьветнай вайны, якую усімі спосабамі стараецца справакаваць Савецкі Саюз, есьць зусім рэальнай загрозай. Яна можа выбухнуць у кажны мамэнт, з чым сяньня сур'езна лічыцца дэмакратычны Захад і да чаго сяньня зь нябывалым укладам сілау і матарыяльных рэсурсау пасьпешна прыгатауляецца. І тады, у мамэнт выбуху новай сусьветнай вайны лес сьвету будзе вырашацца не на Далекім Усходзе, ня у іншай часьці

(Працяг на 2 балоне)

